

# Парасятам амерыканская мара ўсміхнулася ў Магілёве

Пад заканчэнне тэатральнага сезону, якое ўжо не за гарамі, Магілёўскі тэатар лялек парадаваў гледачоў новай пастаноўкай. Зробленны па матывах вядомай дзіцячай казкі "Тры парасяты" аднайменны спэктакаль, "на англійскай мове з сінхронным перакладам", стаў выдатным падарункам ня толькі маленькім, але і дарослым аматарам мастацтва.

У пэўнай ступені спэктакаль зьявіўся эксперымэнтам. Гэта праявілася і ў тым, што выбраная першаснова, дзіцячая казка, раптам пераўтварылася ў лёгкую і добрую, "хэпіэндавую" амерыканскую гісторыю, і для малых, і для дарослых.

Адзін з работнікаў тэатра ў антракце прызнаўся: "Спачатку я быў супраць англійскай мовы, не разумеў, навошта яна. Затое цяпер бачу – без яе нельга". Сапраўды, з выкарыстаннем гэтага прыёма спэктакаль атрымаў цікавае гратэскнае аздабленне, дзея набыла ... жывыя рысы, і не ўвасабляецца ў трывіяльны казачны анэкдот пра шчаслівую амерыканскую парасяціну. Тое, што бачыць глядач на сцене, нагадвае анімацыйны фільм, прычым фільм-пародыю на вестэрн і меладраму аднначасова.

Я адчуваў сябе ня толькі гледачом. Пэрыядычныя звароты да залы пераўтварылі мяне (як і ўсіх астатніх!) у досыць важных асобаў – толькі для нас усё і распавядалася на сцэне. Вельмі спадабалася, як акторы (прынамсі, усе ігралі цудоўна) "забывалі" пра сваіх лялечных герояў і пачыналі рабіць на першы погляд нешта абсурднае – танчыць адзін з адным, перамаўляцца, задуменна спыняць свой рух. Гэта таксама прыўносіла дадатковыя фарбы ў дзею, насычала яе нечаканым зместам.

Але ўсяго было ў меру. Атрымалася лёгкая, надзвычай дасціпная і вясёлая посмешка рэжысёра Алега Жугжды з гісторыі пра "осуществлённую американскую мечту". Праўда героямі, якія дасягаюць гэтай мары – уласнага дому і спакойнага сытага дабрабыту – сталі тыя самыя тры парасяты.

І так хацелася апынуцца побач з гэтымі казачна шчаслівымі парасятамі-сімпацягамі хаця б на сцэне Магілёўскага тэатра лялек!

*Сымон ГЛАЗШТЭЙН*

# Магілёўскі тэатар лялек. 21-ы тэатральны сэзон

## Рэпэртуар на красавік:

4, 5 – Премьера: Лора Ли "Сказка о трёх поросятах" (пикник на английском газоне по английской сказке, с 6-ти лет)

11 – Ан. Лелявский "Весёлый цирк" (кукольное цирковое представление, с 5-ти лет)

18 – А. Линдгрен "Мио, мой Мио!.." (рождественский мираж, с 5-ти лет)

26 – П. Кондрусевич "Красная Шапочка" (мини-опера для детей и родителей по всемирно-известной сказке Ш. Перро, с 5-ти лет)

***Пачатак спэктакляў а 12-й гадзіне***
***Каса працуе ад 10-й да 17-й, акрамя панядзелка***
***Прымаюцца заяўкі ад калектываў***
***Тэлефоны для даведак: 25-84-89; 25-64-46***

**Мастацкі кіраўнік тэатру Алег Жугжда**

## ПАЭТЫЧНАЯ ГАСЦЁЎНЯ ТЫДНЁВІКА

*Вершы з кнігі "Шарая гадзіна" **Хведара Ніцкі** мы перадрукоўваем з № 16 "Нашай Нівы" (1993 г.).*

### ПЯТА

Для тых, хто вырас пад пятою,
прыйшло адсланьне залатое,
і можна сьпіны разагнуць
і ў мросны блакіт зірнуць.

І мы глядзім увысь, ды ўпотай
шукаем там абрысы Бота:
а раптам вернецца пята,
і мы пачуем трэск хрыбта?

лілёвыя, як той [illegible] смутак,
што каранямі ўпіўся ў наш закутак.
Сіпіць гарбатнік. Хутка закіпіць.
Пара ўставаць. Пара гарбату піць.
Пара туды, дзе [illegible]
на шэры [illegible] кладуць курсівам,
нібы актору [illegible] грым...
Мы хутка [illegible]...
Дай, Божа, ўсім у шчасьце цэлы й сталі
той згадцы, якой мы не зазналі.

Харон на чорнай шугалеі
зьвязе мяне за Ахерон.

Ды, стаўшы ценем, у імгле я
на беразе растайным зноў
зьляплю сабе з рачнога глею
людзей, і птушак, і зьвяроў.

### ПАТОП

Мазгі разбухлыя. Агаленыя нэрвы.
А зь неба воды льюцца безь пярэрвы.



* * *

Я зманьтачыў усё абы дзе, абы з кім, абы як
і ў спацелай далоні апошні сьціскаю мядзяк.

Я б зьбавіў яго, ды пахмуры Харон не [illegible]:
усё роўна, крыху, не крыху, а спагоніць абол

[illegible]

### НА ЗОЛКУ

На кухні суха чыркнула запалка.
Фаерка расьцьвіла агнём фіялкай,

* * *

Праз шквал [illegible],
праз несусьветны гвалт
я чую сёмым сьлыхам
узмах лёгкіх крыл
Тых, хто ў імгле туманы
[illegible]

* * *

Калі жывеш [illegible],
бы ўвосень гольле [illegible] крон,

Заткнуць бы вушы або выпіць яд,
каб заглушыць нямоўчны вадаспад.

Дзень не расплюшчвае вачэй запеклых.
Ноч доўжыцца. І, бы ў атворы пекла,
са сьпіны згорбленай засмечанага бруку
[illegible]



# Перакладзіце на беларускую мову

**Па гарызанталі:**
5. Перелог. 6. Форель. 9. Пшено. 11. Участие. 12. Кладовая при амбаре. 15. Луг. 18. Грусть. 19. Журнал. 20. Выхухоль. 21. Трясогузка. 25. Декабрь. 26. Печенье. 27. Ищейка. 31. Пустыня. 33. Шрам. 34. Пояс. 35. Крючок для вязания. 36. Камелёк.

**Па вертыкалі:**
1. Сверкание. 2. Вьюга. 3. Душок. 4. Согласие. 7. Приключение. 8. Парус. 10. Клинышек. 13. Постановление. 14. Сумерки. 16. Занавес. 17. Кислятина. 22. Помойка. 23. Выжереб. 24. Налог. 28. Лён (очёсанный). 29. Знакомый. 30. Резон. 32. Место, на которое сажали невесту при свадебной церемонии.

# Абвестка

Ты – беларус? Ты хочаш ведаць гісторыю свае Бацькаўшчыны й чытаць беларускіх аўтараў на роднай мове?

Калі так, то мы радыя прапанаваць табе кнігі й касэты. За даведкамі зьвяртайся ў аўторак і чацьвер з 18-й гадзіны па тэлефоне 31-04-39 (Сяржук), і ў любы час – па тэлефоне 25-57-85 (Алесь).

Рэдактар Генадзь СУДНІК






Аналітычна-інфармацыйная газэта, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.

Газэта выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове.



Кошт аднаго асобніка газэты ў гандлі праз сістэму Саюздруку — 3.000 рублёў. У свабодным продажы і ў грамадскіх распаўсюджвальнікаў — па дамоўленасці.



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў,
вул. Першамайская, 6-22.

ТЭЛЕФОНЫ:
31-04-15,
22-97-82



Газэта надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.Свярдлова. Замова 7. Наклад 1.100 асобнікаў.